## *Да ўвагі кіраўнікоў раённага вузла сувязі, аддзяленняў сувязі, паштальёнаў, грамадскіх распаўсюджвальнікаў друку!*

РЭДАКЦЫЯ "РОДНАЙ НІВЫ" АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС РАБОТНІКАЎ ПАШТОВАЙ СУВЯЗІ.

**УМОВЫ КОНКУРСУ**

Калі падпіска на "Родную ніву" ў другім паўгоддзі 2000 года будзе на 20-30 працэнтаў больш пэўнага разліку (разлік такі, што падпіскай на раённую газету ахоплена кожная чацвёртая сям'я), то адпаведныя кіраўнікі і паштальёны атрымліваюць грашовае заахвочванне.

Прыкладная сума прэміяльнага фонду — каля 30 тысяч рублёў, па 800-1000 рублёў для паштальёнаў і грамадскіх распаўсюджвальнікаў "Роднай нівы".






● Человек — человеку

## *Спасибо, добрые люди*

Неутешное горе пришло в нашу семью. Нет больше с нами родного человека, сыночка, брата Саши. Казалось, жизнь остановилась для нас. Но в самую трудную минуту рядом были добрые, отзывчивые люди, которые разделили нашу боль, нашу утрату. Низкий поклон администрации, всему коллективу ликёро-водочного завода, семьям Шевцовым и Никулиным, всем, кто сочувствовал нашей беде. Огромная благодарность за оказанную нам моральную и материальную поддержку. Спасибо Вам, добрые люди!

**Семья Белоусовых.**



**Рэпартаж з месца падзеі**

# Услаўлялі людзей працы

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

А затым надыйшла чарга віншаваць лепшых поля веснавога. Разгледзеўшы вынікі раённага спаборніцтва на веснавой сяўбе ў сёлетнім годзе, раённы выканаўчы камітэт вырашыў прызнаць пераможцам сярод калгасаў і саўгасаў саўгас "Мілаславіцкі" (дырэктар В.М.Судзілоўскі, галоўны аграном А.І.Тужыкаў), калгас "Сасноўка" (старшыня В.Р.Закардонскі, галоўны аграном А.І.Кісялёў) і племзавод "Ціманава" (дырэктар А.А.Валадковіч, галоўны аграном В.Ф.Багамолаў).

Гэтыя працоўныя калектывы былі прэміраваны адпаведна на 104, 78 і 52 тысячы рублёў. Былі і асабіста прэміраваны кіраўнікі перадавых гаспадарак, якія пасяхова правялі пасяўную. Гэта В.Я.Цыбульскі — старшыня калгаса імя Янкі Купалы, М.С.Пашкевіч — дырэктар саўгаса "Малышкавічы", А.К.Баўкуновіч — старшыня калгаса "Герой працы".

Пад апладысменты атрымлівалі Ганаровыя граматы і прэміі лепшыя механізатары на ўнясенні мінеральных угнаенняў. Трактарамі МТЗ-80, 82 з раскідвальнікамі МВУ-5 і 6 — І.А.Маложын з племзавода "Ціманава", С.А.Афанасаў з калгаса "Галіцкі", Г.М.Баранаў з саўгаса "Звянчацкі"; трактарамі МТЗ-80, 82 з раскідвальнікамі НРУ-0,5, МВУ-0,5 А.А.Кубышка з падсобнай гаспадаркі ЛГЗ, В.В.Харунжы з АГП "Асмолавічы", С.Ф.Базылеў і А.І.Дарашкоў з калгаса "Галіцкі"; трактарамі МТЗ-80 з раскідвальнікамі РУМ-8 А.А.Купрэеў з калгаса імя Янкі Купалы.

За тое, што дабіліся найвышэйшага выканання норм выпрацоўкі на ўнясенні арганічных угнаенняў, прэміраваны С.С.Волікаў і В.М.Васіленка з саўгаса "Мілаславіцкі", М.Л.Курзоў з калгаса "Рабочы".

Сярод аратых пераможцамі прызнаны: на ўзворванні глебы трактарамі МТЗ-1221 з плугамі ПЛН-4-35 У.У.Гапееў з птушкафабрыкі, А.У.Баранаў з племсаўгаса "Высакоўскі", С.Б.Фёдараў з племзавода "Ціманава", а трактарамі МТЗ-80, 82 з плугам ПЛН-3-35 А.А.Емельянаў з калгаса "Чырвоны сцяг", В.П.Будзянкоў з АГП "Асмолавічы", А.В.Ляпунаў з калгаса "Рабочы".

Не менш важна і якаснае выкананне культывацыі глебы. Ад гэтага таксама залежыць ураджай. Тут пастараліся, працуючы на трактарах К-700 і 701 з культыватарам КЧ-5,1, і прызнаны пераможцамі У.А.Кулькоў, М.М.Сакові з саўгаса "Малышкавічы", М.І.Ігнатаў з птушкафабрыкі; трактарамі Т-150К і МТЗ-1221 з культыватарам КПС-4 С.М.Арлоў з калгаса "Галіцкі", В.В.Сафранкоў з саўгаса "Звянчацкі", Ю.Д.Васілеўскі з эксперыментальнай базы "Раднянская"; трактарамі МТЗ-80, 82 з культыватарам КПС-4,0 —С.А.Міхалькоў з падсобнай гаспадаркі ЛГЗ, В.В.Кружаленка з калгаса "Герой працы", С.В.Туркоў з калгаса "Новае жыццё"; трактарамі ДТ-75 з культыватарам КПС-4 С.М.Затрымайлаў, І.Я.Фралянкоў з калгаса "Сасноўка"; трактарамі К-700, 701 з глебаапрацоўчым агрэгатам АКШ-7,2 С.Л.Падабед з саўгаса "Малышкавічы", П.І.Мацвееў з саўгаса "Мілаславіцкі", М.У.Пракапенка з калгаса "Чырвоны сцяг"; трактарамі Т-150К, МТЗ-1221 з глебаапрацоўчым агрэгатам АКШ-6,0 А.В.Шпакаў з калгаса "Рабочы", М.Я.Супарэка з калгаса "Сасноўка", М.А.Новікаў і А.Р.Лукашэнка з саўгаса "Макеевічы".

А цяпер мы назавем лепшых на сяўбе яравых культур. Трактарамі МТЗ-80, 82 з сеялкай СЗУ-3,6 адпаведна першае, другое і трэцяе месцы занялі механізатары М.Л.Бурсаў з эксперыментальнай базы "Раднянская", С.А.Волкаў з калгаса "Новае жыццё", Л.І.Серакоў з калгаса "Герой працы"; трактарамі МТЗ-80, 82 з сеялкамі СПУ-4 і 6 —Л.І.Іваноў з саўгаса "Малышкавічы", Л.К.Градаў з калгаса імя Янкі Купалы, М.У.Марозаў і А.І.Каспераў з калгаса "Рабочы".

На пасадцы бульбы пастараўся і заняў першае месца Л.А.Новікаў з эксперыментальнай базы "Раднянская", на сяўбе кукурузы —В.Р.Быкаў з саўгаса "Мілаславіцкі", а другое Л.І.Прусакоў з калгаса "Рабочы".

Прыемна было атрымліваць прэміі і кіраўнікам шэфствуючых арганізацый і прадпрыемстваў горада, якія аказваюць своечасовую дапамогу калгасам і саўгасам. Гэта за першае месца дырэктару райаграпрамтэхзабеспячэння М.Б.Прошку, а таксама начальніку ДРБУ-172 У.Р.Левіту і начальніку ДБПМК-9 М.Н.Далгуну.

Загадчык аддзела па справах моладзі райвыканкама В.А.Ларыёнаў разам з першым сакратаром грамадскага аб'яднання БПСМ С.М.Быкавым уручылі каштоўныя падарункі пераможцам спаборніцтва сярод маладых механізатараў на веснавых палявых работах. Імі выйшлі С.Л.Падабед з саўгаса "Малышкавічы", А.А.Кубышка з падсобнай гаспадаркі ЛГЗ, С.А.Волкаў з калгаса "Новае жыццё".

У заключэнне ўзнагароджваліся лепшыя работнікі адукацыі, культуры, медыцыны і тыя, дзе лепш арганізавалі спартыўна-масавую і аздараўленчую работу. Вядучыя Людміла Вароніна гаворыць аб педагогах пранікнёныя словы. Вось яны: "Добры настаўнік жыве ў думках і ўчынках людзей". З гэтым нельга не пагадзіцца, як і з тым, што добра вучаць дзяцей у другой школе горада (дырэктар А.Я.Папкоў), яна, дарэчы, і заняла першае месца, другое і трэцяе — педагагічныя калектывы сярэдняй школы N 1 (дырэктар С.В.Кохан) і сярэдняй школы N 3 (дырэктар Т.У.Красата).

На сяле лепшымі прызнаны педкалектывы Барсукоўскай сярэдняй школы (дырэктар В.І.Дробышава), Ціманаўскай (дырэктар Д.В.Кісялёў), Звянчацкай сярэдняй школы (дырэктар М.І.Галянкова). Кожны з гэтых калектываў прэміраваны адпаведна на 132, 88 і 44 тысячы рублёў. Крышачку меншыя прэміі ў астатніх пераможцаў.

Сярод базавых школ — гэта калектывы Паўлавіцкай, Асмолавіцкай і Недзведзьскай, якія ўзначальваюць дырэктары Н.У.Асмалоўская, А.М.Віцюгоў, А.І.Падгурская. Сярод пачатковых першае месца прысуджана калектыву Пераваланнянскай школы (дырэктар Р.К.Шведава).

А вось сярод дзіцячых дашкольных устаноў горада перамог калектыў дзіцячага сада N 4 "Рамонак" (загадчыца Г.І.Палятаева), а ў ліку прызёраў — дзіцячы сад N 7 "Церамок" (загадчыца І.А.Уласікава), дзіцячага сада N 1 "Бярозка" (загадчыца Т.А.Прошка).

На вёсцы лепшыя Ціманаўскі дзіцячы сад (загадчыца А.М.Асмалоўская), Звянчацкага (загадчыца В.А.Захарчанкава) і Раднянскага (загадчыца В.А.Абраменка).

Пераможцамі раённага спаборніцтва сярод педагагічных работнікаў былі названы выхавацель дзіцячага сада N 4 "Рамонак" С.М.Агеева, намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце СШ N 2 Г.С.Кашо, выкладчык ветэрынарных дысцыплін сельгастэхнікума Н.І.Карабцова, выхавацель дапаможнай школы-інтэрната Т.І.Асмалоўская, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце ПТВ-214 В.В.Шалыгіна.

Сярод аддзяленняў раённай бальніцы першае месца ў калектыва інфекцыйнага аддзялення, а другое — дзіцячага, якія ўзначальваюць С.А.Міцічава і Н.М.Ісачанка. Сярод сельскіх участковых бальніц і сястрынскага догляду —Мілаславіцкая сястрынскага догляду (загадчыца — фельчар С.А.Васіленка); сярод фельчарска-акушэрскіх пунктаў і сельскіх урачэбных амбулаторый —Барсукоўская сельская ўрачэбная амбулаторыя (галоўны ўрач В.М.Казанцава), аптэчных устаноў —Мілаславіцкая аптэка (загадчыца —фармацэўт Г.М.Васіленка).

У спаборніцтве ўстаноў культуры перамаглі: сярод сельскіх клубаў і Дамоў культуры — Раднянскі СДК (дырэктар А.В.Салагуб), Кісялёва-Будскі сельскі клуб (загадчыца Г.У.Саўчанка) і Макеевіцкі сельскі клуб (загадчыца Т.М.Каралёва).

Сярод бібліятэк — Недзведзьская, Макеевіцкая і Звянчацкая, дзе бібліятэкарамі працуюць В.В.Буракова, Г.І.Рубан, Н.Д.Цыкаленка. Кінаўстановак —кінаўстаноўка Ціманаўскага СДК (кінамеханік У.І.Шляхценка).

Прыемна, што ў ліку ўзнагароджаных была, як пераможца індывідуальнага спаборніцтва, і вядучая мерапрыемства, метадыст раённага цэнтра культуры Л.В.Вароніна, а таксама загадчыца аддзела камплектавання і апрацоўкі літаратуры цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Л.А.Мацвеева, выкладчык дзіцячай мастацкай школы А.У.Котаў.

Любяць і спорт на Клімаўшчыне. Тут пераможцамі спаборніцтва за лепшую пастаноўку спартыўна-масавай і аздараўленчай работы сярод калектываў фізкультуры прадпрыемстваў і арганізацый названы калектывы РВА ЖКГ (дырэктар Г.В.Ляпуноў), аддзела адукацыі райвыканкама (загадчык В.В.Кавалёў) і ЛГЗ (дырэктар В.А.Рамашкевіч).

На вёсцы лепш чым дзе спартыўная работа пастаўлена ў калгасе "Сасноўка" (старшыня В.Р.Закардонскі), калгасе "Галіцкі" (старшыня А.М.Радзюк), племзаводзе "Ціманава" (дырэктар А.А.Валадковіч).

Сярод сярэдніх школ горада спорт найбольш у пашане ў СШ N 2 (дырэктар А.Я.Папкоў), СШ N 4 (дырэктар К.К.Шапяцько) і СШ N 3 (дырэктар Т.У.Красата); сярэдніх сельскіх — у Мілаславіцкай (дырэктар А.Ф.Жураў), Барсукоўскай (дырэктар В.І.Дробышава), Галіцкай (дырэктар Г.Л.Малашанка) і базавых школ — Асмолавіцкай (дырэктар А.М.Віцюгоў), Паўлавіцкай (дырэктар Н.У.Асмалоўская), Гусаркаўскай (дырэктар С.М.Вітун).

Сярод навучальных устаноў агульнапрызнаны спартыўны лідэр —сельгастэхнікум (дырэктар А.Я.Барысевіч).

Дарэчы, калектывы, якія занялі першыя месцы, атрымалі не толькі граматы і прэміі, але яшчэ і пераходны кубак. Шанаванне перадавікоў народнай гаспадаркі сяла вылілася ў сапраўднае свята працы і музыкі.

Для яго ўдзельнікаў спявалі ў той дзень самадзейныя артысты Юля Коршунава, Наталля Грышкевіч, Людміла Аўхіменка, Марыя Быкава, Галіна Судзілоўская, Юрый Арлоўскі, Галіна Шапавалава, Ірына Сцефаненка, Ірына Фурманава, Іван Сапсалёў, Віталь Емельянаў, Таццяна Фрузорава, Святлана Гершанкова, Вольга Карасёва, члены ансамбля Раднянскага СДК і выступалі члены танцавальнага ансамбля школы мастацтваў.

Хапіла клопату і намесніку старшыні райвыканкама В.П.Хрытанковай, якая аб'яўляла пераможцаў, і работнікам гандлю, каб абслужыць сваіх шматлікіх пакупнікоў. Усім трэба сказаць дзякуй — і тым, хто гэтак дбайна працуе кожны на сваім рабочым месцы, і тым, хто іх абслугоўваў у той дзень і пастаянным нашым жыцці.

**І.ЛАПО.**



## У СПІСУ НЕСУНОЎ

Раённы аддзел аховы ў ходзе праведзеных з 17 па 28 мая 2000 года рэйдаў па аб'ектах аграпрамысловага комплексу выявіў факты дробнага крадзяжу.

Напрыклад, 30 кілаграмаў зерня ўкраў адзін з работнікаў ДРБУ-172. З дзвюма кілаграмамі камбікорму затрыманы работнік саўгаса-камбіната "Сосны". З племзавода "Ціманава" тры чалавекі прыхапілі з сабой 16 кілаграмаў буракоў. З бутэлькай крадзенай гарэлкі спынены работнік лікёра-гарэлачнага завода.

Непрацуючыя Келбусаў А.І. вынес з падсобнай гаспадаркі ЛГЗ 80 кілаграмаў брагі, а Максімчанка В.Б. затрыманы з 50 кілаграмамі камбікорму.

Пенсіянеры Шаршнёў У.Я. украў ні многа ні мала — 320 літраў брагі, Піпкін Я.К. — 40 літраў.

**Галоўны рэдактар Мікола МІНЧАНКА**

**"РОДНАЯ НІВА". Заснавальнікі: Клімавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Клімавіцкі раённы Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі.**

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах 2 разы на тыдзень —па серадах і суботах.**

**Кошт 1 экземпляра газеты — 32 рублі .**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213600 г. Клімавічы, пл. 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, д. № 1.

ТЭЛЕФОНЫ: галоўнага рэдактара —2-11-69, намесніка рэдактара і загадчыка аддзела савецкага будаўніцтва — 2-11-60, адказнага сакратара — 2-12-63, аддзелаў сацыяльных праблем і інфармацыі, рэдактара аддзела па рэкламе і аб'явах — 2-12-65, аддзела эканомікі і бухгалтэрыі — 2-12-64, аддзела радыёінфармацыі — 2-31-58, прыёмнай рэдакцыі — 2-11-69, мясцовай друкарні — 2-31-55.

Рэдакцыя газеты мае права публікаваць артыкулы і іншыя матэрыялы ў парадку іх абмеркавання, не падзяляючы пры гэтым думкі, погляды і меркаванні таго ці іншага аўтара.

За змест аб'яў і іншых рэкламных матэрыялаў рэдакцыя не адказвае. Усе даведкі — у рэкламадаўцаў.

**Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы Н.Абжыгалава.**

**Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова (вул. Першамайская, 70, тэл. 25-28-05). Аб'ём — адзін друкаваны аркуш.**

**Зак. 45. Тыраж 1790 экз. Індэкс 64078. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання N 286.**

**Выдавец — аддзел па друку Магілёўскага аблвыканкама**

**Газета падпісана да друку ў 17. 00 9.06.2000 г.**